вукова-даследчым праектным інстытутам горадабудаўніцтва толькі з невялікай карэктурай ад інстытута "Віцебскграмадзянпраект". БелНДІП горадабудаўніцтва фактычна мае манаполію на фарміраванне горадабудаўнічай палітыкі дзяржавы, і інстытут на сто адсоткаў выконвае распрацоўку ўсёй вертыкалі горадабудаўнічай дакументацыі ў Беларусі. Такім чынам, установа адказвае за комплексныя схемы тэрытарыяльнай арганізацыі, генеральныя планы абласцей, раёнаў, гарадоў і гарадскіх паселішчаў, а таксама за дэталёвыя планы забудовы.

Такая сістэма з'яўляецца нашчадкам савецкай сістэмы моцнага цэнтралізаванага ўрада і, адпаведна, цэнтралізаванай будаўнічай палітыкі. Ні для каго не сакрэт, што ў Мінску выпрабоўваліся новыя архітэктурныя дасягненні да таго, як яны цалкам ўвасобіліся ў Маскве. Сёння Мінск заняў пазіцыю метраполіі – з манаполіяй на ўсе горадабудаўнічыя вырашэнні рэгіёнаў. На сайце БелНДІП горадабудаўніцтва зазначаецца, што з 2007 г., пасля значнай тэрытарыяльнай рэарганізацыі 1970-1980-х гг. і некаторага перапынку, інстытут распрацаваў "больш за 15 схемаў комплекснай тэрытарыяльнай арганізацыі раёнаў Беларусі". Інстытут таксама акрэслівае сваёй галоўнай мэтай не забеспячэнне камфортнага для жыцця асяроддзя, а "забеспячэнне ў развіцці [рэгіянальных гарадоў] пераемнасці і ўстойлівасці на этапах значных сацыяльна-эканамічных пераменаў". Зразумела, што праз такую геаграфічную і канцэптуальную цэнтралізацыю застаецца мала прасторы для індывідуальных вырашэнняў.



Стакгольм. Двары ў спальных раёнах.



## ШВЕДСКІ ВАРЫЯНТ

Спецыфіка беларускай горадабудаўнічай палітыкі вызначаецца тым фактам, што ў беларускай дзяржавы ёсць абсалютная манаполія на ўласнасць зямлі. Самы пазітыўны прыклад падобнай сістэмы існуе ў Швецыі, але ў іншай форме, якую варта было б запазычыць і Беларусі. Першы закон аб планаванні гарадоў ужо ў 1907 г. зацвердзіў незалежнасць муніцыпальных і гарадскіх саветаў у падрыхтоўцы планаў развіцця. Цэнтральны ўрад, у сваю чаргу, у 1907 г. мог толькі прапаноўваць, аднак не навязваць змены ў мясцовыя планы, а кожны муніцыпалітэт меў адпаведную адказнасць за рэалізацыю планаў. Такім чынам, гэты закон дазволіў муніцыпалітэтам (ці абласцям) развівацца згодна са сваімі прыярытэтамі, пры гэтым захоўваючы дзяржаўную манаполію на планаванне. Гэты заканадаўчы акт стаў своеасаблівым нарожным каменем паспяховага досведу шведскага гарадскога планавання і развіцця.

Незалежнае муніцыпальнае планаванне з'яўляецца ключавым аспектам мясцовага самакіравання ў Швецыі, і кожны муніцыпалітэт мусіць вырашыць самастойна, як выкарыстоўваць і развіваць сваю зямлю. Шведскае дзяржаўнае кіраванне дэцэнтралізаванае: мясцовыя муніцыпалітэты поўнасцю адказваюць за планаванне, развіццё і прадастаўленне паслуг. Кожны муніцыпалітэт мае жыццяздольную эканоміку і падатковую базы, а таксама поўнасцю здольны забяспечваць адэкватныя сацыяльныя і інфраструктурныя паслугі. Муніцыпальныя планы, якія зацвярджаюцца на мясцовых сходах, адразу маюць прававы статус. Шведскі цэнтральны ўрад можа ўмяшацца ў скрайнім выпадку, напрыклад толькі каб абараніць нацыянальныя інтарэсы, прыродныя рэсурсы або дзяржаўную бяспеку альбо дзеля забеспячэння належнага ўдзелу ўсіх зацікаўленых бакоў.

## ШТО РАБІЦЬ

Такім чынам, для больш разумнага планавання абласных цэнтраў і гарадоў Беларусі, варта забяспечыць большую незалежнасць мясцовых урадаў, даць ім магчымасць прымаць рашэнні ў адпаведнасці з мясцовымі прыярытэтамі развіцця. Беларускія вобласці таксама павінны валодаць большай эканамічнай і палітычнай аўтаноміяй, дзейснай падатковай сістэмай, каб мець магчымасць выдаткоўваць сродкі на развіццё. Па вялікім рахунку, аб'ектыўнасць прыняцця мясцовых рашэнняў амаль што немагчымая без выбарнасці мясцовых уладаў. Толькі праз адпаведную персанальную зацікаўленасць у развіцці горада і мясцовасці можна дасягнуць пазітыўных вынікаў, а не праз перайначванне існуючых шаблонаў іншых гарадоў. Пакуль што ў Беларусі мясцовы ўрад выбіраецца толькі намінальна, а пасады кіраўнікоў абласцей, а таксама мясцовых гарвыканкамаў прызначаныя. Выбарнасць уладаў таксама дапаможа ўсталяваць неабходную сістэму checks and balances, у якой мясцовыя ўлады будуць адказваць за прыняцце і выкананне рашэнняў непасрэдна перад жыхарамі горада.

***Нялішнім было б пазбавіць БелНДІП горадабудаўніцтва манаполіі на будаўнічую палітыку краіны. У сучасным свеце падаецца амаль немагчымым сцэнар Беларусі, дзе адзін даследчы інстытут рэалізуе ўсе маштабныя праекты.***

У існуючай сітуацыі варта даць магчымасць мясцовым праектным інстытутам рэалізаваць свой сцэнар развіцця. Таксама варта задумацца пра пашырэнне рынку планавання, дазволіць прыватным архітэктурным фірмам удзельнічаць у конкурсах і тэндэрах і ў першую чаргу ўвесці канкурэнтныя праектныя ўмовы. Зразумела, вялікай праблемай таксама з'яўляецца падрыхтоўка спецыялістаў. Сёння амаль усе патэнцыйныя ўдзельнікі працэсу навучаюцца ў адным універсітэце ў сталіцы па той самай праграме, што і 40 гадоў таму. Варта дыверсіфікаваць праграму навучання, стварыць філіялы ў іншых гарадах, акрамя Мінска, і пазбавіць горадабудаўнічую адукацыю яе "цэнтральнасці". У Беларусі сёння існуе шмат прафесіяналаў, якія могуць стварыць канкурэнтны рынак з рэалізацыяй аб'ектыўна лепшых і эканамічных праектаў, а не паўтараць старыя і неактульныя вырашэнні.

## КУЛЬТУРНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

БелНДІП горадабудаўніцтва сцвярджае, што падчас працы над генеральнымі планамі ажыццяўляецца "пошук новых архітэктурна-мастацкіх кампазіцый, сродкаў фарміравання ўнікальнага асяроддзя для кожнага горада, сучаснага маштабу забудовы з пераходам да сярэдняга і малапавярховага будаўніцтва". Тым не менш ні для каго не сакрэт, што ў большасці генпланаў Беларусі новая забудова вядзецца па тыпавых праектах МАПІДа, якія экспартуюцца не толькі ў рэгіянальныя цэнтры Беларусі, але нават у "братэрскія" дзяржавы, напрыклад у Венесуэлу. У якасці ўнікальных культурных прыкладаў прыводзяцца праекты рэгенерацыі гістарычных цэнтраў Віцебска, Гродна, Навагрудка, Полацка. Але нават "рэгенерыраваныя" гістарычныя цэнтры сёння выглядаюць аднолькава, пад увагу ўзятыя хіба прастора для пешаходаў і некалькі крамаў. Нават у Віцебску праект аднаўлення цэнтра горада не ўлічвае культурныя і гістарычныя асаблівасці і неабходнасць стварэння "духу месца". Толькі пазбавіўшыся манаполіі цэнтральнага прыняцця рашэнняў, праз шэраг крытычных сацыяльных даследаванняў і прыслухоўваючыся да мясцовых жыхароў і іх патрабаванняў, можна стварыць горад для людзей.

Самая галоўная праблема сённяшніх праектаў БелНДІП горадабудаўніцтва нават не ў іх візуальнай непрывабнасці, а ў поўным ігнараванні стварэння камфортнага жыццёвага асяроддзя і сацыяльных і культурных мясцовых асаблівасцяў. Напрыклад, у раёне Білева ў Віцебску, які павінен далей забудоўвацца шматпавярховымі дамамі, на сённяшні інфраструктура існуе ў вельмі абмежаваным выглядзе без дастатковай колькасці ходнікаў, без паліклінік і дзіцячых садкоў, а недзе і без асфальтаваных дарог. Пакуль Беларусь будзе працягваць будаваць "панэлькі" без ніякага комплекснага разумення сферы паслуг і інфраструктуры, немагчыма казаць пра сапраўднае развіццё беларускіх гарадоў. Пры гэтым ніхто не забараняе карыстацца тыпавымі мадэлямі і тыпавымі гарадскімі блокамі, але ў XXI ст. гэтыя вырашэнні павінны адрозніваца ад вырашэнняў 1960-х гг. Сучасны тыпавы праект павінен мець магчымасць адаптавацца да мясцовасці, тапаграфіі, сацыяльных і культурных асаблівасцяў і мясцовай сферы паслуг. Беларусь не можа працягваць перайначваць старыя праекты, а павінна заняцца пошукам і даследаваннем самага аптымальнага варыянта гарадскога развіцця, беручы пад увагу геграфічныя, дэмаграфічныя і сацыяльныя паказчыкі, адпаведныя нашай краіне і асобна ўзятым мясцовасцям ●

# ГАРАДЖАНЕ МОГУЦЬ САМІ



## “КІРМАШЫ ПРАЕКТАЎ” АД КАМПАНІІ “БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!” ДАПАМАГАЮЦЬ НАСЫЦІЦЬ ГОРАД ПАДЗЕЯМІ

**/ АЎТАР:**
**АЛЕСЬ ЗАМКОЎСКІ /**

Віцебскі журналіст і літаратар.

Фота:
Budzma.org,
Vitebsk4Me

### У ЧАКАННІ АДНАГО СВЯТА

Горад дае магчымасць. Магчымасць аператыўна вынайсці ідэю, аформіць яе, зрэалізаваць, атрымаць вынікі і на іх аснове выбудаваць наступную ідэю. У трэндзе той, хто не збаіцца, зробіць першы крок, вышукае аднадумцаў. У горадзе для гэтага нашмат больш шанцаў, чым дзе. Сканцэнтраваны асяродак разнастайных ініцыятыў робіць горад добраўзаранай глебай, падрыхтаванай для пасадкі. Прыкладзеш намаганне – і будзе сад! У нашым выпадку – віцебскі.

Ідэі заўжды лётаюць у паветры. То тут, то там. Сабраць іх у адно месца, каб супаставіць і абмеркаваць, – гэта сапраўды было неабходна Віцебску, месту, культура якога найбольш сканцэнтравалася на чаканні, падрыхтоўцы і рэалізацыі аднаго глабальнага масавага свята – фестывалю “Славянскі базар”. У параўнанні з ім іншыя ініцыятывы маюць лакальны і, на жаль, не такі значны характар. Прынамсі, не заўжды з’яўляюцца заўважанымі і дастаткова падтрыманымі ўладамі мясцовага і тым больш рэспубліканскага ўзроўню.

**Адным з выпадкаў, калі грамадскасць сама выступіла з прапановай, сталіся “Кірмашы праектаў” кампаніі “Будзьма беларусамі!”.** У Віцебску “кірмашовы” рух развіўся паспяхова: пасля старту ў снежні 2012 г. і да сёння адбылося пяць прэзентацый-дыскусій, на якіх было выстаўлена больш за 40 праектаў. Разнастайных, у рознай ступені распрацаваных ідэй, здольных пазітыўна змяніць гарадскую культурніцкую мапу, выявіць усім вядомыя, але не да часу забытыя адметнасці. У многіх ініцыятараў атрымалася зрэалізаваць свае задумы.





### ЦЭЛЫ КУФАР ПРАПАНОЎ

Кіраўнік імпрэзаў, каардынатар кампаніі “Будзьма беларусамі!” па Віцебскай вобласці Уладзімір Булаўскі падняў на паверхню многія каманды разам з ідэямі, якія здаваліся немагчымымі да рэалізацыі. Калі меркаваць па тэматыцы прэзентацый, Віцебск яшчэ раз пацвердзіў сябе горадам мастацтваў, таму што большасць ідэй мела дачыненне да распаўсюджання і падтрымання разнастайных яго відаў.

Фатографы прапаноўвалі зладзіць гарадскую фотасушку і фотазлёт, літаратары – правесці конкурс сучасных беларускіх пісьменнікаў і арганізаваць адкрытую музычна-літаратурную пляцоўку, прадстаўнікі “Віцебскага кінаклуба” – стварыць сайт “Kinaposhuk” і праграму падтрымкі маладых рэжысёраў, тэатралы – адкрыць моладзевы эксперыментальны тэатральны цэнтр Віцебска і Віцебскага раёна. Прыхільнікі мастацтва танца прэзентавалі праекты па папулярызацыі традыцыйных беларускіх і сярэднявечных танцаў, распаўсюду бальнай культуры шляхты, сучасных прагрэсіўных плыняў – адкрыты майстар-клас па соўшал-танцам.

Выявілася і багатая спадчына выяўленчага мастацтва. На “Кірмашах праектаў” было прапанавана аднавіць роспіс сцяны паводле эскіза Малевіча, выдаць каталог прац заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Аляксандра Салаўёва, звярнуць больш пільную ўвагу на даследаванне віцебскай школы канструктывісцкага мастацтва.

Найменшай папулярнасцю, на жаль, карысталася сфера турызму. Ідэя па стварэнні інфармацыйнага гіда Віцебска выглядае даволі перспектыўнай, тым больш што ў абласны цэнтр з кожным годам прыязджае дастаткова многа студэнтаў-замежнікаў, ды і падчас “Славянскага базару” вельмі шмат гасцей з іншых краін. Іх усіх варта далучаць да гарадской культуры і нават даваць ім магчымасць удзельнічаць у яе развіцці.

Даволі арыгінальныя ідэі былі сярод асветніцкіх праектаў. Напрыклад, азбука-саматканка для дашкольнікаў і іх бацькоў – мастачка Святлана Бараноўская прапаноўвала ў гульнёвай форме далучаць маленькіх віцяблян да вывучэння беларускага альфабэта. Або кавярня-чытальня “Бульбарыум”, якая спалучыла б музей і кавярню і мела на мэце перайначыць разуменне такой мянушкі прадстаўнікоў беларускай нацыі, як “бульбашы”. Цікавымі былі ідэі адкрыцця клуба настольных гульняў і пунктаў вулічнага буккросінгу.




Найбольш цікавымі і разам з тым найбольш складанымі сярод іншых кірмашовых з’яўляліся канцэптуальныя ідэі па ўдасканаленні гарадской ідэнтычнасці. Праект “Арт-Афіша”, дзе магло б анансавацца абсалютна ўсё, што робіцца ў горадзе, – ад цырымоніі ўзнагароджання найлепшага пад’езда да канцэрта “Металікі” ў Амфітэатры, зрэалізаваць магчыма нават у якасці мабільнага дастасавання. А вось ідэя стварэння “Клуба арганізатараў” як адукацыйнай і камунікацыйнай пляцоўкі для маладых і прафесійных арганізатараў патрабуе абагульненага падыходу. Як і праект “Дыскусійны клуб” – афлайнавае дыскусійнае месца для людзей сярэдняга ўзросту. Найбольш комплексным і складаным выглядае праект “Брэндынг горада Віцебска”. Яго якаснае вырашэнне наўрад ці магчымае ў рамках грамадскай ініцыятывы, але добра ўжо тое, што шырока была агучаная патрэба ў фармаванні віцебскага вобраза.

### НЯПОЎНЫ СПІС ЗРОБЛЕНАГА

З мастацкіх прапаноў часткова была рэалізаваная ідэя гарадской фотасушкі, а паўнавартасна – мурал паводле эскіза Казіміра Малевіча “Смерць шпалерам!”, які рабіў Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва. Размешчаны ўпершыню на тарцах будынкаў на

**Казімір Малевіч (1879-1935), «Смерць шпалерам!», эскіз.**





рагу вуліц Леніна і Праўды да 1 мая 1920 г., ён аднаўляўся тры разы. Да 1040-годдзя Віцебска – чацвёрты, дзякуючы падтрымцы "Кірмаша праектаў" і фінансавай дапамозе віцебскіх гарадскіх уладаў. Выява, якая ўваходзіць ва ўсе каталогі авангарднага мастацтва ХХ ст., ізноў з'яўляецца адным з сімвалаў Віцебска.

Даволі паспяхова прайшлі гістарычныя праекты. Супольнасць "Таямніцы Віцебска" апублікавала 24 навукова-папулярныя артыкулы на сайце "Vitebsk4.me" ў межах серыі "Віцебск: папулярнае мінулае", а таксама надрукавала паштоўкі паводле гэтых тэкстаў. Дзякуючы падтрымцы прадпрымальнікаў атрымалася выдаць наклад плакатаў з выявай віцебскіх замкаў XIV ст. паводле карціны Ігара Дурава.

больш значных вынікаў стаў выпуск дыска з запісамі спеваў і казак для дзяцей. Наступным крокам праекта мусіла быць яго пашырэнне да новага фармату openair, што патрабавала больш высокага ўзроўню арганізацыі і новых прывабных ідэй. На жаль, гэты крок так і не быў зроблены, хоць і заяўляўся на адным з кірмашоў.

Не абмінулі і спартовую тэматыку. Відовішчны турнір па футбольным фрыстайле "Вежа" прайшоў якраз на адной з сустрэчаў. Турнір па футболе сярод аматарскіх камандаў нарэшце адбыўся на беразе Віцьбы. Вельмі актыўна на "Кірмашах праектаў" праяўляліся ідэі ўсемагчымых фестываляў, напрыклад Фестываль вулічнай музыкі або Фестываль паветраных змеяў, потым паспяхова зрэалізаваны ў выглядзе "Свята ветру".

Варта адзначыць, што большасць "гандляроў" праектамі мелі непасрэдныя адносіны да сферы, у якой прэзентаваліся. Большасць з іх давялі простую думку: "Нам складана перашкодзіць – нам лёгка не дапамагчы". Прадстаўнікі гарадской адміністрацыі ветліва ўдзельнічалі амаль ва ўсіх кірмашах, раілі, выказвалі меркаванні ў межах дзяржаўнай палітыкі, шмат у чым аказвалі арганізацыйную падтрымку, а часам і матэрыяльную. Найбольш заўважны прыклад такога ўзаемадзеяння – уключэнне шэрага падзей з "Кірмаша праектаў" у праграму Дня горада ў 2015 г. Гараджане наведвалі мастацкі маркет "Барадулінкі", гарадскую фотасушку, кінапаказ кароткаметражак, "Спеўны сход".




Ігар Дураў. Графічная рэканструкцыя віцебскіх замкаў.



Віцебск. Спеўны Сход на Дзень горада.

Вядомы краязнаўца і гісторык Мікалай Півавар зрэалізаваў ідэю велаэкскурсій па ваколіцах Віцебска і, у прыватнасці, пасёлка Лужасна. Велатурызм мог бы нямала дапамагчы мясцоваму турызму быць у трэндзе і прывабіць моладзь.

Адным з самых яркіх стаў праект сустрэчсемінараў для маладых бацькоў "Забаўлянкі для Янкі". Задуму здзейснілі сябры студэнцкага этнаграфічнага таварыства "Поўнач" на чале з Ганкай Краўчанкай. Маладыя аматары традыцыйнай культуры вучылі татаў і мам, што такое слінгі і як іх традыцыйна завязваць, як сустракаць вясну, каб дзеткам было весела, праводзілі майстар-класы па выцінанках і спевах калыханак-забаўлянак, стваралі казачны лялечны тэатр. Адным з най-

"Кірмашы праектаў" далі віцяблянам магчымасць праідэнтыфікаваць сябе з горадам, асучасніць традыцыі, ажывіць іх сённяшнімі методыкамі і тэхналогіямі, зварухнуць асноўную частку культурнай грамадскасці, далучыць да стварэння імя Віцебска. Гэта як рухавік – калі яго прывесці да ладу, запусціць і ў час падсілкаваць, то можна і не спыняць. А каб не перагрэўся і дацягнуў да выканання зорных мэтаў – сілкаванне павінна быць разнастайным і здаровым ●



# ВІЦЕБСКАЯ МАГДЭБУРГІЯ

## ДАЎНЯЯ ГІСТОРЫЯ ВІЦЕБСКАГА ГАРАДСКОГА САМАКІРАВАННЯ



**/ АЎТАР: МІКАЛАЙ ПІВАВАР /**

**Гісторык і краязнаўца, кандыдат гістарычных навук.**




**Афіша 2016 г. на серыю мерапрыемстваў, прымеркаваных да даты надання гораду магдэбургскага права**

У аснове сістэмы самакіравання паўсюль і заўсёды стаяла абшчына. Яна вырашала найбольш важныя пытанні гарадскога жыцця: прымала рашэнні, якія датычылі ўсіх мяшчанаў, кантралявала дзейнасць органаў гарадскога самакіравання, чыніла суд. Усе члены абшчыны – гэта свабодныя ўласнікі. Яны мелі палітычныя правы, якія дазвалялі ім браць удзел у дзяржаўнай дзейнасці. (Таму, напрыклад, грэчаскі поліс называюць грамадзянскай абшчынай.)

У полісе зарадзілася ўнікальная рыса грэчаскай і антычнай цывілізацыі – дэмакратыя. Прычынай гэтаму былі кліматычныя, геаграфічныя, сацыяльныя асаблівасці Балканаў. Грамадзянская абшчына – зародак сучаснай грамадскай супольнасці. Тут выспелі, нарадзіліся і замацаваліся незвычайныя для старажытнасці ўзаемакарысныя адносіны грамадства і дзяржавы, у роўнай меры патрэбныя адно аднаму. Забяспечвалі не народны сход і прынцып выбарнасці ўлады.

Горад – гэта месца, дзе людзі жывуць, працуюць, адпачываюць. Актыўны ўдзел у гарадскім самакіраванні павінны пазітыўна ўплываць на яго развіццё. Прычым адваротная і зваротная сувязь: актыўны ўдзел у жыцці горада спрыяе фарміраванню свядомай грамадзянскай пазіцыі не толькі на мясцовым, рэгіянальным, але і на нацыянальным узроўні. ***Самакіраванне ў любой форме – магдэбургіі альбо школьнага парламента – гэта выклік.*** Гэта выдатная магчымасць жыць сваім розумам, але і адказнасць – калі нешта не атрымаецца, то гэта твая віна, на тваёй адказнасці. Толькі ад актыўнасці грамадзянаў залежыць павышэнне якасці жыцця ці яго заняпад, сацыяльныя ўмовы, узровень карупцыі.

* * *

Права на самакіраванне на ўзор германскага гарадскога права было нададзенае Віцебску ў 1597 г. Але чаму Віцебск атрымаў яго на 200 гадоў пазней за Брэст, які з беларускіх гарадоў атрымаў яго першым?

А дужа і не трэба было. Самакіраванне ў некаторых гарадах з'явілася на Беларусі раней за магдэбургію. Так, полацкае веча было самакіраваннем беларускага ўзору. Віцебскія мяшчане здаўна карысталіся мясцовым земскім правам, асноўныя нормы якога былі змешчаны ў Віцебскім земскім прывілеі. У сярэдзіне XVI ст. на яго аснове была створана адзіная свайго кшталту ў Вялікім Княстве Літоўскім сістэма саслоўных правоў мяшчанства – віцебскае гарадское права. Такія самыя правы атрымалі некаторыя іншыя гарады Падзвіння: Сураж, Ула.



**Віцебская ратуша – адна з нямногіх, якія захаваліся ў "магдэбургскіх" гарадах Беларусі. На малюнку яе выгляд у XVIII ст. Графічная рэканструкцыя Віктара Барысенкава**

**РАІЦЬ ЧЫТАЦЬ:**

Макараў М. Ад пасада да магдэбургіі: прававое становішча насельніцтва местаў Беларускага Падзвіння ў XIV – першая палове XVII ст. Мінск, 2008.

Цітоў А. Геральдыка беларускіх местаў. Мінск, 1998.

Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Мінск, 2005.

Наданню Віцебску магдэбургскага права садзейнічалі некалькі абставінаў. Сярод іншых у горадзе існавалі дзве групы мяшчанства – конныя і паспалітыя. У 1592–1593 гг. паміж імі здарыўся канфлікт. Пасля яго завяршэння адносіны паміж мяшчанамі працягвалі заставацца вельмі напружанымі, што адбівалася на кіраванні горадам. Выхадам з гэтай складанай сітуацыі і стала наданне Віцебску магдэбургскага права.

Лепш за ўсіх пра гэта напісаў вядомы гісторык-медыевіст Максім Макараў. Яго ная дысертацыя і кніга[1] прысвечаны розным аспектам развіцця сярэднявечнага Віцебска.



Сучасны герб Віцебска адсылае да таго, які быў зацверджаны разам з магдэбургскім правам.

* * *

Тэрмін "магдэбургскае права" (ці "майдэборскае", "нямецкае", "інфлянцкае", "тэўтонскае") паходзіць ад збору правоў горада Магдэбург XIII ст. Кодэкс дзейнічаў у гарадах Усходняй Германіі, Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. У Вялікім Княстве Літоўскім права пачало распаўсюджвацца пад заходнім уплывам і найперш Кароны Польскай. Магдэбургскае права ў ВКЛ мела свае асаблівасці. Вылучаюцца некаторыя рэгіянальныя цэнтры, якія выступалі ў якасці гарадоў-узораў для іншых. Такімі былі, напрыклад, Берасце, Гародня, Орша.



Якую структуру фармавала магдэбургія ў местах? На чале горада стаяў войт, а ў яго адсутнасць – лантвойт. Войт узначальваў апарат, які складаўся з бурмістраў, радцаў, лаўнікаў. Усе разам яны ўтваралі магістрат, які знаходзіўся ў адмыслова ўзведзеным будынку – ратушы. Пасады былі часовыя, і гараджане выбіралі іх штогод. Пры заступленні на пасаду сябры магістрата прыносілі прысягу гораду.

Магістрат меў прадстаўнічую, фіскальную, распарадчую, судовую, натарыяльную функцыі. Ён адказваў за добраўпарадкаванне тэрыторыі горада, збіраў і размяркоўваў гарадскія падаткі, распараджаўся гарадской маёмасцю, вызначаў парадак гандлю, бараніў правы горада і гараджанаў, дзейнасць рамесніцкіх і гандлёвых аб'яднанняў (цэхі, гільдыі, брацтвы), адказваў за абарону горада.

Першым горадам, які атрымаў магдэбургскае права на Беларусі, быў Берасце, гэта адбылося ў 1390 г. З найбольш значных гарадоў варта згадаць наступныя: Гародня – 1496, Полацк – 1498, Менск – 1499, Дзісна – 1569, Магілёў, Мазыр – 1577, Пінск – 1581, Нясвіж – 1586, Віцебск – 1597, Друя – 1618, Орша – 1620, Бешанковічы, Талачын – 1634[2].

Аўтар артыкула падчас экскурсіі "Магдэбургскі Віцебск" 17 сакавіка 2016 г. Фота: www.vk.com/event116311414



Віцебская ратуша. Сучасны выгляд. Графічная рэканструкцыя Віктара Барысенкава.

Гарады дзяржаўнага падпарадкавання маглі атрымаць магдэбургскае права адпаведна з прывілеем вялікага князя літоўскага (пасля 1569 г. – караля польскага і вялікага князя літоўскага). У прыватнаўласніцкіх гарадах, якія часцей належылі буйным шляхціцам – магнатам, прывілей на наданне права мог падпісаць уладар горада.

* * *

Навошта беларускім гарадам вылучалі правы? Прычын было шмат, вось некаторыя з іх:

- самастойнасць заахвочвала мяшчанаў да развіцця;
- права на самакіраванне магло быць узнагародай жыхарам за іх заслугі;
- існавала патрэба ў тым, каб развіваць пакуль эканамічна слабыя, але перспектыўныя рэгіёны;
- ажывіць стратэгічна значныя рэгіёны пасля вайны, голаду і інш.

З увядзеннем магдэбургскага права жыхары вызваляліся з-пад улады ваяводаў, старастаў, дзяржаўцаў. Уся ўлада перадавалася да органаў гарадскога самакіравання. На тэрыторыі горада адмянялася дзейнасць мясцовага права і ўводзіліся нормы магдэбургіі. Хоць нормы звычаёвага права заставаліся, калі яны не супярэчылі нормам магдэбургскага. У гэтым і была адна з асаблівасцяў беларускай мадэлі магдэбургскага права. Тут адначасова дзейнічалі заходнія нормы, статут ВКЛ і нават звычаёвае права. ***Ёсць прыклады, калі жыхары горада штрафы спаганялі паводле Статута ВКЛ, бо ў ім яны былі вышэйшыя, чым па нормах магдэбургскага права, а пакаранні, якія па магдэбургскім статуце былі больш жорсткія, прымянялі па мясцовым праве, якое было менш цяжкім.***

У даход горада перадаваліся падаткі ад крам, ятак, васкабойняў, гасцінных бровараў, лазняў, важняў і інш. Мяшчане атрымлівалі эканамічныя льготы, вызваляліся (у межах свайго горада) ад платы гандлёвых падаткаў. Хоць у межах горада працягвалі існаваць юрыдыкі – тэрыторыі, якімі прыватным чынам валодалі шляхціцы і дзе нормы магдэбургіі не дзейнічалі. На Беларусі магдэбургскае права ліквідавалася з далучэннем земляў да Расійскай імперыі ●

[1]Макараў М. Ад пасада да магдэбургії: прававое становішча насельніцтва местаў Беларускага Падзвіння ў XIV – першая палове XVII ст. – Мінск: Экаперспектыва, 2008. – 248 с.

[2]Доўнар, А. Магдэбурскае права // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. – Т. 1. – Мінск: БелЭн, 2006. – С. 241-242



# ТУРЫСЦКІ ЭКСПАРТ ВІЦЕБСКА: УСХОД І ЗАХАД

## ВЫБУХОВАЯ ПЛЫНЬ РАСІЙСКІХ ТУРЫСТАЎ МОЖА БЫЦЬ НЯДОЎГАЙ, І ЎЖО ЗАРАЗ ТРЭБА ВЫБУДОЎВАЦЬ МАДЭЛІ ПРАЦЫ З ІНШЫМІ КІРУНКАМІ



**/ АЎТАР: АЛЯКСАНДР МІНІН/**

Гід-міжнароднік, дырэктар турагенцыі "Bel Baltic Travel".

Віцебск – старажытны горад на поўначы Беларусі. Ён з даўніх часоў меў і мае вялікую ролю ў развіцці рэгіёна. Гэтае места, як магніт, прываблівала сваёй талерантнасцю да розных канфесій і культур, давала прытулак і магчымасці займацца сваёй справай, пускаць глыбокія карані. Гэта, у сваю чаргу, заклала падмурак для разнастайных багаццяў, якія сёння выкарыстоўваюцца ў мясцовай турыстычнай сферы.

Міжнародны турызм з'яўляецца адной з самых дынамічных галін сусветнай эканомікі. Паводле дадзеных Сусветнай рады па турызме і падарожжах, унёсак галіны ў сусветны ВУП набліжаецца да 10 %. Яна абганяе, да прыкладу, хімічную прамысловасць (8,6 %) і аўтапрам (7 %). Акрамя непасрэдных выдаткаў на пражыванне і транспарт, турыст стымулюе розныя ўскосныя галіны – ад гандлю да сельскай гаспадаркі. Кожнае 11-е

**РАІЦЬ ЧЫТАЦЬ:**

Відэалекцыя Уладзіміра Ткачэнкі "Экскурсія па прафесіі гіда" http://youtu.be/kYQOZuVgbos

Тэлеперадача "Вечерний Витебск" (219 выпуск, 20.11.2015) па тэме "Як зрабіць гісторыю цікавай і даступнай для ўсіх" https://youtu.be/EL8L_7C3fMo

Віцебскі алфавіт: Трыццаць дзве адметнасці нашага горада. Пад рэд.: Раман Воранаў. Віцебск: Vitebsk4Me, 2015. http://www.publicrepublic.info/system/files/VitebskABC.pdf



працоўнае месца на планеце так ці інакш залежыць ад турызму. Яго доля ў сусветным экспарце складае 5,4 %, а ў экспарце паслуг дасягае 30 %. Такія лічбы не могуць не ўражваць. Але яны амаль не датычацца нашай краіны.

* * *

Развіцце турыстычнай сферы ў Беларусі знаходзіцца на пачатковым узроўні. У краіне з ёй звязана кожнае 59-е працоўнае месца. Варта адзначыць, што ў апошнія гады Беларусь стала больш прывабнай для адпачынку, усё часцей мы чуем мовы іншых народаў свету ў Мінску, але як зацікавіць турыстаў прыехаць у іншыя гарады, чым прывабіць іх і як прадставіць свой горад?

Віцебск – гэта мультыкультурны феномен, які можа быць цікавы госцю з розных краін. Паводле дадзеных "Travel.ru", у 2015 г. ён увайшоў у топ-10 гарадоў, якія наведалі расійскія турысты ў краінах – сябрах СНД. Чаму горад такі актуальны для грамадзяніна Расійскай Федэрацыі?

**Геаграфічная блізкасць.** Віцебская вобласць мяжуе на захадзе і паўночным захадзе з Літвой і Латвіяй, на ўсходняй поўначы і ўсходзе – з Расіяй.

**Зручная камунікацыя.** Асноўныя транзітныя патокі цягнікоў і аўтобусаў з Санкт-Пецярбурга ў Беларусь і далей ва Украіну і Заходнюю Еўропу праходзяць праз Віцебск. Праз горад ідзе штодзённы цягнік Полацк – Масква – Полацк. Міжнародная траса Масква – Брэст – Варшава пралягае за 70 км ад горада. Дарогу ў Літву і Латвію праз Віцебск часта выбіраюць кіроўцы з РФ дзякуючы лепшым дарогам і не вельмі загружаным памежным пераходам. Рэгулярныя аўтобусныя маршруты ладзяцца мясцовымі турыстычнымі кампаніямі і прыватнымі перавозчыкамі.

**Блізкія падзеі ў гісторыі.** Перыяд Кіеўскай Русі шырока адлюстраваны ў расійскіх падручніках. Агульныя падзеі, княжацкія карані даюць падставу для паспяховай міфалагізацыі вобразаў, якія выкарыстоўваюцца для прыцягнення ўвагі турыста. У горадзе шмат аб'ектаў нерухомай спадчыны, звязаных з перыядам знаходжання ў складзе Расійскай імперыі. Віцебскія турагенцы ў працы з расіянамі часта робяць націск на тэму Вялікай Айчыннай вайны, хоць, трэба сказаць, у Віцебску няма вялікіх і знакамітых мемарыяльных аб'ектаў, як у Брэсце ці Мінску, таму па гэтай тэматыцы горад застаецца перыферыйным пунктам у падарожжах па Беларусі.

**Гісторыя Праваслаўнай царквы і стараверcaptaў.** У Віцебску аднаўляюцца храмы, якія былі знішчаныя ў савецкі час, і яны актыўна выкарыстоўваюцца ў экскурсійных маршрутах. Як да спецыфічнага феномена Віцебскага рэгіёна, апошнім часам расце цікаўнасць да стараверцаў, якія збягалі з Расіі і знаходзілі прытулак на нашых землях у час Рэчы Паспалітай.

**Культурныя падзеі.** Флагманам у гэтай галіне з'яўляецца фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", які мае ўжо 25-гадовую гісторыю і праводзіцца ўлетку. Галоўнай мовай фестывалю з'яўляецца руская, а гэта, у сваю чаргу, адбіваецца на складзе ўдзельнікаў і таксама наведвальнікаў форуму.

**Асобы.** Віцебск прываблівае мастакоў, музыкаў і творчых асобаў. Сярод іх шмат добра вядомых шараговым грамадзянам РФ. У горадзе захаваліся мясціны, звязаныя з Маркам Шагалам, Казімірам Малевічам, Іллёй Рэпіным, Маркам Фрадкіным і іншымі.

**Безбар'ернасць.** На мяжы паміж Беларуссю і Расіяй адсутнае візавы рэжым, а Віцебск і Масква цяпер знаходзяцца ў адным часавым поясе.

**Ідэалогія.** Паводле апошніх апытанняў, сярод расійскага насельніцтва самай "сяброўскай" краінай былога СССР расіяне лічаць менавіта Беларусь, што дае падставу ствараць неблагі імідж турыстычнай сферы.

* * *

Варта разумець, што сённяшняму выбуховападобнаму росту візітаў усходніх турыстаў у Віцебск у першую чаргу садзейнічае эканамічны спад у краіне-суседцы. Ва ўмовах значнага зніжэння курса расійскага рубля і эканамічнага крызісу Беларусь, у тым ліку і памежны Віцебск, робяцца больш прывабнымі для наведвання жахарамі еўрапейскай часткі Расійскай Федэрацыі.
За 2015 г. колькасць зваротаў расійскіх турыстычных кампаній да турфірмаў Віцебска павялічылася ў некалькі разоў.

Цалкам верагодна, што рост такой зацікаўленасці да Беларусі будзе часовай з'явай, пакуль не нармалізуюцца стасункі паміж Расіяй і заходнімі краінамі і дабрабыт суседзяў не пачне паляпшацца. У сувязі з гэтым ёсць нялішнім развіваць мадэлі працы з гасцямі з захаду, поўначы і поўдня. Палітыка моцна ўплывае на развіццё турыстычнай сферы. З адменай санкцый у дачыненні да Беларусі і паляпшэннем візавага рэжыму трэба засяродзіцца на тым, што цікава ў Віцебску для грамадзянаў і з іншых еўрапейскіх дзяржаў.

**"Настальгія" па СССР.** Розныя праявы былой савецкай дзяржавы, у якой жылі і літоўцы, і беларусы, і латышы, сёння найлепш захаваліся на Беларусі. У Віцебску ёсць тое, чаго больш не ўбачыш у Вільні ці Рызе. Але гэта цікава і для іншых жыхароў Еўрасаюза.

**Блізкія падзеі ў гісторыі.** Агульнае мінулае, звязанае з часам Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, цікавае для турыстаў з Літвы, Польшчы і Украіны – краін з агульнай колькасцю насельніцтва ў 83,5 млн чалавек. Віцебск мае сваю частку ў гэтай гісторыі, напрыклад звязаную з князем Альгердам, калі горад стаў неглалосны сталіцай ВКЛ, альбо з тэмай магдэбурскага права, якое яднае вялікую колькасць гарадоў Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Моцная роля ракі Дзвіны ў мінулым спрыяе цікавасці з боку Швецыі, а па "Віцебску латышскім" хапае інфармацыі для асобнага турыстычнага маршрута. У 2000-х гг. спецыяльны праект "Панарама Дзвіна / Даўгава" мусіў узмацніць турыстычныя стасункі паміж Швецыяй, Беларуссю і Латвіяй. Вялікая роля ў гэтым адводзілася Віцебску, але эфекты з той дзейнасці сёння кепска праглядаюцца.

**Блізкія з'явы ў культуры і мастацтве.** Агульнаеўрапейскі культурны кантэкст уплываў на Віцебск з часоў Сярэднявечча. Гэта і замкавае будаўніцтва, і архітэктура барока, і дзейнасць асобаў накшталт Іераніма Пражскага альбо Іосіфа Фантана. Мастацтва ў ХІХ і пачатку ХХ ст. насычана вялікімі імёнамі, якія на слыху ва ўсім свеце і цяпер могуць выкарыстоўвацца як візітная картка Віцебска: Марк Шагал, Восіп Цадкін, Казімір Малевіч, Эль Лісіцкі.

**Традыцыі рэлігійнай талерантнасці і шматкультурнасці.** Віцебск быў месцам для пражывання людзей розных этнасаў і веравызнанняў. Кангламерат жыхароў з рознымі поглядамі і адрознай веры існаваў і развіваўся шмат стагоддзяў, дэманструючы жыццяздольнасць ідэі, якая сёння ляжыць у падмурку як Еўрапейскага саюза, так і ўсяго цывілізаванага свету.

Турысту цікава сустракаць тое, што "падобнае", але індустрыя таксама будуецца на новых уражаннях, на тым, што "адрознае". Асобным кірункам у развіцці турыстычнага патэнцыялу Віцебска можа быць элементарная гастранамічная мапа, якой, на жаль, сёння ў горадзе няма. І тут няма аніякай розніцы, адкуль прыязджае госць: яго, натуральна, будуць цікавіць стравы беларускай кухні. Тым больш калі гэта не кухня з усёй краіны, але і асаблівасці гастраноміі рэгіёна. Цяпер кожная кавярня ці рэстарацыя ў горадзе павінна абавязкова мець старонку з нацыянальных страў, але вельмі часта відаць, што яна зробленая для адпіскі і рэдка адпавядае патрабаванням наведвальнікаў з густам.

* * *

Прыведзеныя тут разважанні маюць базуюцца на шматгадовай працы з турыстамі розных краін і кантынентаў, якія прыязджалі ў Віцебск, і мусяць дапамагчы ўявіць, у якіх кірунках можа развівацца турызм у абласным цэнтры на поўначы Беларусі. Відавочна, што ажыццяўленне гэтых назіранняў можа адбывацца пры спрыянні дзяржавы, цесным ўзаемадзеянні грамадскіх і неграмадскіх арганізацый, а таксама камерцыйных устаноў і, зразумела, турыстычных фірмаў, якія больш за ўсіх павінны быць зацікаўленыя ў развіцці ўнутранага рынку ●

ГРАМАДЗЯНСТВА АСОБАЎ, ЯКІЯ СПЫНЯЛІСЯ Ў ГАТЭЛІ "ЛУЧОСА" (ВІЦЕБСК) У 2015 г.

| Краіна | Колькасць асобаў |
|---|---|
| Аўстрыя | 19 |
| Беларусь | 7528 |
| Бельгія | 8 |
| Балгарыя | 3 |
| Вялікабрытанія | 57 |
| Германія | 163 |
| Грузія | 10 |
| Данія | 8 |
| ЗША | 16 |
| Ізраіль | 18 |
| Італія | 63 |
| Казахстан | 38 |
| Кітай | 76 |
| Латвія | 119 |
| Літва | 149 |
| Нідэрланды | 15 |
| Польшча | 180 |
| Расія | 5436 |
| Турцыя | 81 |
| Украіна | 328 |
| Фінляндыя | 5 |
| Францыя | 18 |
| Чэхія | 42 |
| Швейцарыя | 22 |
| Швецыя | 16 |
| Эстонія | 95 |
| Іншыя краіны па-за СНД | 252 |
| Краіны СНД, акрамя Беларусі, Казахстана, Расіі і Украіны | 105 |
| **Агулам** | **14870** |



ЦЫТАТНІК

**СТЕПАН СТУРЕЙКО:**

*"Наследие кажется нам самым стабильным элементом культуры. Это не так. Нельзя до конца изучить памятник, полностью сохранить и окончательно интерпретировать его."*
*"Апофеозом стало объявление намерения возвести в Витебске никогда не существовавший там полоцкий (!) Софийский собор, каким он был в XI в. Притом не известно точно, как он выглядел."*

***

**МАРЫЯ РУСАК:**

*"Спецыфіка беларускай горадабудаўнічай палітыкі вызначаецца тым фактам, што ў беларускай дзяржавы ёсць абсалютная манаполія на ўласнасць зямлі."*
*"Нават "рэгенерыраваныя" гістарычныя цэнтры сёння выглядаюць аднолькава, пад увагу ўзятыя хіба прастора для пешаходаў і некалькі крамаў."*

***

**ВИКТОРИЯ ДАШКЕВІЧ:**

*"Но самое главное – положительный опыт показал: горожане могут и должны участвовать в принятии решений […] относительно организации отдыха в городских зеленых зонах."*

***

**КАСЯ ВАСИЛЬКОВА:**

*"Профессиональных художников мало, а студенты художественных специальностей из витебских университетов – народ ветреный. И, главное, они покидают Витебск при первой возможности."*

***

**ЯЎГЕН КАЛБОВІЧ:**

*"Гэта сучасная цэгла аднаго колеру, а ў XIX ст. кожная сцяна мела сваё аблічча, таму што была зробленая з цаглінак абпалу рознай ступені. У гэтым і выяўляецца мастацтва рэстаўратара, яго досвед у аднаўленні першапачатковага характару каляровага вырашэння сцяны."*

***

**СТАНІСЛАЎ ВАЛУЙ:**

*"Маляўнічасці віцебскага барока дадае мясцовы ландшафт, утвораны пагоркамі і высокім берагам Дзвіны. Такім чынам дамінанты ўтвараюць у Віцебску неверагодна прыгожы сіці-лайн [...] "*

***

**МІКАЛАЙ ПІВАВАР:**

*"У гэтым і была адна з асаблівасцяў беларускай мадэлі магдэбургскага права. Тут адначасова дзейнічалі заходнія нормы, статут ВКЛ і нават звычаёвае права."*

***

**АЛЯКСАНДР МІНІН:**

*"Асобным кірункам у развіцці турыстычнага патэнцыялу Віцебска можа быць элементарная гастранамічная мапа, якой, на жаль, сёння ў горадзе няма."*

***

**РАМАН ВОРАНАЎ:**

*"Для гарадоў без магутнай вытворчасці і пляжна-горнага адпачынку лагічнае выйсце ў развіцці малога і сярэдняга бізнесу, IT-сферы, крэатыўных індустрый. Можа будзе нечаканасцю, але ў Віцебску яно неяк так і рухаецца."*

# ЗМЕСТ



**Нумар рыхтавалі:**

Зміцер Гаўрусік — ідэя нумара

Раман Воранаў — рэдактар нумара

Юля Янюк-Казлоўская — макет

Васіль Явід — дызайн, вёрстка

**У нумары выкарыстаныя фотаздымкі:**

www.google.com

**Фота на вокладцы**
**Аляксандра Веледзімовіча (2015).**

**Тыраж:**
299 особнікаў
Надрукавана на ўласнай тэхніцы
Распаўсюджваецца бясплатна
Травень, 2016
Мінск

**E-mail:**
gtalmanach@gmail.com

VITEBSK4.ME